аплачана агулам.

# НАШ СЬЦЯГ


Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска **на адзін месяц** з дастаўкай да хаты **18.000** м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 3500 мк., сярод тэксту 3000 м. і на 4 стр. 2500 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 22 — Серада, 8-га жніўня 1923 г. — Год I.


## Дэклярацыя.

*Украінскага і Беларускага Пасольскіх Клюбаў, прачытаная паслом* **ПІДГІРСКІМ** *на паседжаньні Сойму 4-га жніўня ў часе дыскусіі над уставай падатку ад маемасьці.*

Падатак ад маемасьці ёсьць падатак надзвычайны, гэта ёсьць даніна, конфіската часткі маемасьці грамадзян у часе нязвычайным, тады, калі Дзяржава перажывае фінансавую, матар'яльную катастрофу. Насяленьне, грамадзяне адчуваюць свой абавязак адносна дзяржавы і даюць, ахвяроўваюць частку сваей маемасьці, каб уратаваць дзяржаву. Украінскі і беларускі народы, засяляючыя свае землі, якія знаходзіцца ў межах сучаснай Польшчы, плацячы ўсе падаткі самаўрадавыя, дзяржаўныя, падаходныя і г. д., даючы рэкрутаў,—вымагаюць ад Дзяржавы лёяльнага выпаўненьня сваіх абавязкаў, адносна да сябе.

Чатырохгадовае польскае панаваньне на украінскіх і беларускіх землях пераканала нашыя народы, што Польская Дзяржава ў адносінах да іх ня ёсьць лёяльнай. Да гэтага часу сотні тысяч людзей, грамадзян украінцаў і беларусаў, пераважна інтэлігэнцыі, ня маюць абыватэльства, а значыцца пазбаўлены ўсіх цывільных і палітычных правоў. З усіх урадовых установаў на нашых землях грамадзяне украінцы і беларусы выдалены і заменены палякамі. Украінская і беларуская інтэлігэнцыя разам з сваімі народамі ёсьць зусім бяспраўнай, паўпэрызаванай і адданай на ласку ці няласку польскай адміністрацыі. Праваслаўная рэлігія праследуецца, праваслаўныя цэрквы і манастыры польскія ўлады адбіраюць і перарабляюць на каталіцкія касьцёлы, альбо зусім касуюць. Украінская школьная справа на Валыні, Галічыне і Холмшчыне і беларуская—страшэнна упасьледжаны. На Падляшшы, Холмшчыне і Палесьсі няма ні аднэй украінскай школы—польскія ўлады там нават забараняюць прыватныя украінскія школы. На ўсім абшары Беларусі, што знаходзіцца цяпер у межах Польшчы, ёсьць толькі 20 беларускіх школаў. Украінскі унівэрсытэт і політэхніка ў Львове прымушаны істнаваць нелегальна. Гэтае нэндзнае становішча украінскай і беларускай школы, якое істнуе пад польскай уладай, служыць толькі для самай цынічнай полёнізацыі нашых нацыянальнасьцей.

На прапазыцыю нашых клюбаў Міністар асьветы Гломбінскі даў ухіляючы адказ і аблудна цьвердзіць, што ў вобласьці нашай школьнай справы—ўсё ў парадку. У вобласьці найбольш балючай для нашых народаў, у вобласьці зямельнай, ад самага пачатку Польскай улады на нашых абшарах вядзецца гвалтоўная колёнізацыя украінскіх і беларускіх земляў — польскі колёніст і вайсковы асаднік вырываюць безьзямельнаму і малазямельнаму украінскаму і беларускаму насяленьню тое, на што яно адвеку чакала — роднную зямлю. Польская адміністрацыя на нашых землях ёсьць настолькі скандалічнай, што толькі выклікае страшэннае абурэньне. Апрача таго на украінскіх і беларускіх землях вядзецца найстрашнейшая грабежная лясная гаспадарка; багацьці нашай зямлі — лясы—ніштожацца, вывозяцца масаю і землі нашыя агалачаваюцца. Нашыя зьнішчаныя вёскі і краі да гэтага часу не адбудаваны. Насяленьне тысячамі месьціцца ў будках, зямлянках, церпіць голад, холад і розныя хваробы.

Дзеля гэтага украінскі і беларускі народы не пачуваюцца адносна да Польскай Дзяржавы да абавязку плаціць над'звычайныя даніны. А мы, прадстаўнікі гэтых народаў, адмаўляем Польскім урадам у правох браць падатак з маемасьці, бо яны ў сваёй дасюлешняй практыцы, ломячы сваю Конституцыю і міжнародныя трактаты, гвалцяць элементарныя інтарэсы нашых народаў. Дзеля таго, што мы ня маем магчымасьці перашкодзіць ухваленьню праз Сойм гэтага падатку, так цяжкага для нашых зьнішчаных вайною земляў і сялянства,—з гэтай прычыны складаем з сябе ўсялякую адказнасьць за гэты падатак і ня хочам браць учасьця ў ягоным ухваленьні.

---

*З цяжка працуючых рабочых промыслу жадаем стаць усе харошымі, дужымі людзьмі, да якіх належыць увесь сьвет як адвечная невысыхальная крыніца найвышэйшай мастацкай роскашы. Каб гэтую мэту дасьцігнуць, патрэба усемагучай моцы рэвалюцыі, бо толькі яна ёсьць тая наша моц, якая проста да мэты ступае.*

**Рышард Вагнэр.** (Мастацтва і Рэвалюцыя).

---

## Падатак ад маемасьці.

Сыстэма капіталістычнай гаспадаркі ў паваенныя часы перажывае востры крызыс у Эўропе і прымушае капіталістычныя клясы шукаць над'звычайных срэдстваў для спыненьня дзейнасьці тых чыньнікаў, якія падкапаваюць падставы самога істнаваньня капіталістычнага ладу. Высілкі гэтыя скіраваны з аднаго боку да найбольшага, нічым неагранічанага вызыску працоўных, каб павялічыць свой капітал, а з другога—да захапленьня і ўтрыманьня ў сваіх руках, палітычнай улады. А для гэтага трэба ўмацаваць той дзяржаўны апарат, які зьяўляецца прыладай у руках буржуазіі для забесьпячэньня свайго панаваньня і ўтрыманьня ў паднявольным стане эксплёатуемых мас.

Панаваньню буржуазіі ў Польшчы, дзякуючы поўнаму зруйнаваньню грашовай гаспадаркі дзяржавы і таму географічнаму палажэньню паміж С.С.С.Р., дзе ўмацавалася ўлада пролетарыяту і Нямеччынай, дзе з дня на дзень трэба спадзявацца пераходу палітычнай улады ў рукі рэвалюцыйнага пролетарыяту,—пагражае яўная небясьпека. І вось з пераходам улады ў рукі Хіена-Пяста—выразьнікаў інтарэсаў заможных клясаў гарадоў і вёсак—на парадку дня паўстае пытаньне аб умацаваньні гэтай улады, а перадусім—направа дзяржаўных фінансаў, бо з пустым скарбам ніякая ўлада ня можа пачувацца моцнай, ня можа ўтрымліваць тэй арміі, паліцыі і розных яўных і тайных агентаў, вывядоўцаў, інформатараў, якіх можна праціставіць страціўшым цярплівасьць работнікам і сялянам.

Гэтае мае на мэце і прынятая Соймам у апошні дзень летняй сэсіі устава падатку ад маемасьці. Але аснаўная ўласьцівасьць капіталістычнай клясы будаваць свой дабрабыт коштам другіх слаёў насяленьня—выразна выявілася і ў гэтым акце, ў зьмесьце і сэнсе тэй уставы, якая мае на мэце ратаваньне капіталістычнага ладу, істнаваньню якога пагражае як унутраная сытуацыя, так і палітычныя праявы ў суседніх дзяржавах.

Правіцовая большасьць, адкідаючы ўсе папраўкі, скіраваныя да звальненьня малазаможных слаёў ад ахвяры часткі свай маемасьці на ўмацаваньне ўлады рэакцыйных груп, правяла уставу ў пажаданай для сябе рэдакцыі і ўскладае гэты цяжар у значнай яго частцы на дробных рамесьнікаў і гандляроў у гарадох і сялянства на вёсках. Устава звальняе ад падатку толькі маемасьць, якая будзе ацэнена ніжэй за 3000 зал. франкаў (каля 1000 зал. рублёў). Як відаць кожны селянін, маючы 4—5 дзесяцін зямлі будзе плаціць гэты падатак; яшчэ больш на карысьць абшарнікаў кажа той пункт уставы, які ўстанавлівае вартасьць жывога інвэнтару і будынкаў, незалежна ад іх запраўднай вартасьці, ў 10% вартасьці грунтаў. Такім чынам раскошныя палацы магнатаў з каштоўным, прызначаным толькі для збыткаў, інвэнтаром, прыраўноўваюцца да беднай хаты селяніна з яго зруйнаванай у паваенныя часы худобай.

125 мільёнаў залатых франкаў павінна будзе выплаціць тая дробна-мяшчанская кляса гарадзкіх рамесьнікаў і дробных гандляроў, якіх ні ў якім выпадку ня можна залічыць да заможнай групы. З прызначаных на земляўласьнікаў 500 мільёнаў зал. фран., большую частку змушана будзе плаціць сялянства, а вялікія прамыслоўцы, гандляры, банкіры заплацяць толькі 375 мільёнаў зал. фран., выцягнуўшы іх з гарадзкіх работнікаў і іншых слаёў кансумэнтаў.

Рэзка кідаецца ў вочы і тая розьніца ў форме сплатаў падатку, якая стасуецца уставай адносна багатых і бедных. У той час, калі незаможныя групы павінны заплаціць падатак у працягу 3 гадоў гатоўкай па курсу залатога франка, для вялікіх прамысловых, гандлёвых і банковых прадпрыемстваў даецца магчымасьць выплаціць падатак у працягу 10 гадоў облігацыямі.

Калі прыняць пад увагу, што нават найдрабнейшая маемасьць будзе ацэнівацца агентамі адміністрацыі, дык значная частка гэтага падатку будзе якраз расходавана на ўтрыманьне гэтай адміністрацыі. Што гэтая давольная ацэнка адміністрацыі пойдзе не на карысьць селяніну ці дробнаму рамесьніку, асабліва ў нас на Крэсах аб гэтым, думаю, ня трэба гаварыць.

Правіца, вуснамі сваіх прамоўцаў, колькі раз падчырківала, што падатак ад маемасьці павінен быць расходаваны не на заспакаеньне неадкладных патрэб дзяржавы, а павінен быць падставаю новай валюты і заснаваньня эмісыйнага банку.

Гэта знача, што грошы пойдуць не на асьвету, не на адбудову зруйнаваных вайною гаспадарак, не на будову дарог і наогул падняцьце культурнага дабрабыту гаспадарства, а іменна для ўмацаваньня падстаў капіталістычнага ладу і ўмацаваньня палажэньня сучаснага рэакцыйнага ўраду.

Зусім зразумела, што нашыя прадстаўнікі ў Сойме разам з украінцамі адмовіліся прыняць ня сябе адказнасьць перад сваімі выбаршчыкамі за правядзеньне гэтай уставы, тым болей што культурныя і эканамічныя інтарэсы нашага народу, ні адным урадам сучаснай Польшчы ня былі прыняты пад увагу.

Устава была прынята галасамі капіталістаў усіх нацыянальнасьцяў, не выключаючы немцаў і жыдоў. Нават вызваленцы і група Домбскага пастыдаліся галасаваць за гэтую уставу en bloc, але пэпэсы, якія заўсёды цягнуцца ў хвасьце буржуазіі, аддалі свае галасы за яе, добра ведаючы, што гэта пойдзе не на карысьць працоўных масаў.

**Яз.**

---

## Кліч да безьзямельных і малазямельных.

Цяпер час жніва, гарачы час для гаспадароў—зборка збожжа з поля.

Цяпер голас і воля безьзямельных і малазямельных маюць рашаючае значэньне. Цяпер яны могуць стаць у абароне сваіх патрэб могуць рашуча адкінуць вызыск, не паддацца крыўдзе.

Безьзямельныя і малазямельныя сяляне, не прынімайце платы ў грашах за сваю дарагую цяжкую працу. Жнецэ на панскіх нівах, толькі бяручы 6 ці 7 сноп сабе, як гэта робіць украінскі працоўны люд. І ніякіх усту-

пак ані кроку назад! Трымайцеся цеснай грамады, арганізуйце вясковыя камітэты ўстанаўляйце цьвёрдыя цэны на заработную плату, вядзеце дружную арганізованую барацьбу з панамі-абшарнікамі, не адбівайцеся самапас ад грамады і без яе волі ня ідзеце да пана на ўслугі, бо пан кожнага паасобку абдзярэ, як ліпку, абстрыжэ, як барана.

У вашым аб'яднаньні ваша моц і слабасьць ворага!

Дык жнеце панскія нівы, толькі бяручы 6 ці 7 сноп сабе!

***Вызваленьне рабочых—ёсьць справа саміх рабочых.***

## Забыліся гісторыю.

Польскі народ у 1863 годзе, падымаючы паўстаньне за сваё нацыянальне вызваленьне, бачыў у сваіх радох рэвалюцыянэраў і адраджэнцаў розных нацыяў. Яны былі прыгнечаныя, народ польскі выклікаў сымпатыі і гарачыя пачуцьці ад усіх, хто ненавідзіць гнёт, цемру і зьдзек.

Вялікі беларускі рэвалюцыянэр Каліноўскі аддаў сваё маладое жыцьцё, паклаў сваю галаву на эшафоце за польскае і беларускае вызваленьне. Праўда, паны, польская шляхта ўзьненавідзела яго за мэты соцыяльныя—ён хацеў адабраць ад паноў зямлю і перадаць працоўнаму сялянству,—яны зьненавідзелі яго так, што не пасароміліся выдаць з галавой расейскім жандарам. Але забіць памяць аб ім яны не маглі і ня могуць. Ён змагаўся за польскае вызваленьне...

Расейскія рэвалюцыянэры, слаўныя імёны каторых зьяўляюцца роднымі для міжнароднага соцыяльнага і адраджэнскага руху, — таксама сьмела выступілі на помач польскаму вызваленчаму руху, хаця йшлі проці свае ўласнае бацькаўшчыны. Як праўдзівыя соцыялісты, а не соцыяльпатрыёты, яны адкрыта працягнулі сваю чэсную руку на помач паўстанцам-палякам.

Бакунін і Гэрцэн—тыя вядомыя ўсяму міру імёны, якія пабрацку працягнулі свае рукі палякам. Але з якой мэтай, угледзімся, чаго яны дамагаліся, на што пакладаліся.

Бакунін казаў, што яны хочуць „стварыць, слаўную, вольную славянскую фэдэрацыю,—адзіны выхад для ўсіх славянскіх народаў“.

А што калі-б ён паўстаў цяпер з магілы і глянуў на тую „слаўную“ фэдэрацыю, якую стварыла незалежная цяпер Польшча з беларусамі і украінцамі... Забыты старыя зарокі і клятвы, самы аўтар братэрства і роўнасьці загублены палякамі, тымі палякамі, якія ўвесь сьвет звалі к сабе на помач, каб вызваліцца ад нацыянальнага гнёту. А польскія соцыялісты, якія разам з Гэрцэнам гаварылі, што „няма вызваленьня без зямлі“, забылі свой зарок братэрскі, забылі сялян беларускіх іх горкую долю, іх голад і нэндзу. Яны адтрымалі свабоду для сябе, а беларусы — гэта провінцыя, калёнія, яе можна эксплёатаваць.

Нездарма-ж Гэрцэн яшчэ тагды выказаў глыбокую прарочую думку, тагды, семдзесят гадоў таму назад: „Мне ўсё здаецца, што ім (палякомпаўстанцам) да сялянскае зямлі няма дзела, а да провінцыяў вельмі многа“.

Польскім „соцыялістам“ P. P. S. і ім падобным і цяпер няма дзела да падзелу зямлі паміж працоўным сялянствам, асабліва беларускім і украінскім. А калі і ёсьць да зямлі дзела, дык толькі з таго боку, каб яна была перададзена з адных непрацоўных рук у другія—ад земляўласьнікаў—ахвіцэрам і паўпанкам. З гэта боку паны, шляхта і польскія „соцыялісты“ вельмі цікавяцца „провінцыямі“, як праўдзіва сказаў некаліcь Гэрцэн.

Яны хочуць апрача падзелу зямлі беларускай паміж польскімі паўпанкамі, яшчэ і поўнага зьнішчэньня беларускае культуры, развіцьця нацыянальнага і духовага нашага народу.

І гэта тыя, хто яшчэ ўчора змагаўся за сваю нацыянальную свабоду, ў каго яшчэ не абсохнуў меч ад крыві, пралітае ў барацьбе „за нашу і вашу вольнасьць“.

Чаго-ж яны ад нас хочуць, гэтыя нашы ўчарашнія браты і сягодняшнія ворагі? Як адбіваецца ў нашых сэрцах і думках іхняе брыдкае патаптаньне ўсіх агульначалавечых ідэалаў братэрства, роўнасьці?... Нятрудна дагадацца, — што пасееш, тое і пажнеш. Мо' й апамятаюцца яны—толькі каб ня было ужо ім па часе...

Забыліся сваю гісторыю.

**Красавік.**

## Міліцыйная сыстэма.

Паводле газэтных вестак, Ліга Народаў зьбіраецца разглядаць пытаньне аб паменшаньні лічбы войск у тых дзяржавах, што ўваходзяць у склад Лігі.

Справа гэта ўжо даўно дамагаецца свaей разьвязкі, асабліва з пагляду на Францыю, якая трымае пад аружжам вялізарную армію і прымушае рабіць тое-ж залежныя ад яе малыя гаспадарствы. Гэтак, прыкладам, Польшча павінна аддаваць на утрыманьне некалькіх сот тысячаў жаўнераў 40% усіх скарбовых грошай, руйнуючы такім непасільным цяжарам усю сваю фінансавую гаспадарку.

Найбліжэйшая саюзьніца Францыі—Бэльгія—і тая ўжо зразумела, што француская палітыка—гэта палітыка ашалеўшых ад пачуцьця свaей перамогі людзей. І ў Бэльгіі мы бачым дужа цікавае зьявішча: бэльгійскі парлямэнт пастанавіў аграні́чыць час вайсковае службы для рэкрутаў да 12 месяцаў у пяхоце і да 13 месяцаў — ува ўсіх другіх відах войск.

Тут гожа ад'значыць, што ў Бэльгіі да вайны армія была пабудована на зусім інакшых асновах, чымся ў Францыі, Польшчы і другіх дзяржавах мілітарыцкага тыпу. Бэльгійская „грамадзянская варта“—гэта нешта вельмі блізкае да арміі міліцыйнае, якая ў чыстым відзе істнуе ў Швайцарыі і Амэрыцы, ды ў крыху зьмененым — у Швэцыі і Нарвэгіі, дзе служаць і ахвотнікі, як сталыя жаўнеры.

Зусім зразумела, чаму навет такая багатая старонка, як Амэрыка, гэны „банкір усяго сьвету“, ня хоча мілітарызавацца, трымаць сталую армію: бо армія вымагае шалёных выдаткаў, ня кажучы ўжо аб тым, што сотні тысяч маладых, найздаравейшых і найдужэйшых людзей адрываюцца ад творчае працы і ў працягу 2—3 гадоў ня прыймаюць ніякага ўчасьця ў тварэньні багацьця свaей бацькаўшчыны.

Вельмі цікава, што ад сыстэмы сталае арміі пачынае пераходзіць да міліцыйнае сыстэмы і Саюз Соцыялістычных Савецкіх Рэспублік, хаця тамака сталая чырвоная армія прадстаўляе галоўную апору рэвалюцыйнае ўлады. Прынамсі частка чырвонае арміі пераводзіцца на міліцыйную сыстэму.

Міліцыйная сыстэма наагул, а таксама і ў савецкіх рэспубліках, уводзіць апрача вялізарнага зьберажэньня грошай і выкарыстаньня сіл рэкрутаў дзеля карыснае працы, яшчэ адну важную навіну: міліцыйныя вайсковыя часьціны на данай тэрыторыі складаюцца выключна з тамтэйшых жыхароў і, пакуль няма вайны, астаюцца ўвесь час дома. Жаўнеры ня лічацца на чыннай службе, а толькі ад часу да часу, калі няма сьпешных работ у полі, зьбіраюцца на некалькі дзён у вызначаных пунктах дзеля муштры і асьвяжэньня свaей вайсковай веды.

А з гэтага вынікае і другая важная навіна: на тэрыторыі, на якой жыве ў пераважаючай лічбе нейкая адна нацыянальнасьць, міліцыйная армія сама сабой нацыяналізуецца, становіцца нацыянальна адналітай, і кожны жаўнер пачувае сябе на сваёй зямлі і сярод сваіх шмат лепш, чым сярод чужых і ў чужой краіне. А гэта адбіваецца на настроі арміі, даючы ей моральную сілу і спайку.

Міліцыйная сыстэма—гэта ідэал, да каторага павінны імкнуцца ўсе дзяржавы і, мы спадзяемся, будуць імкнуцца, калі прыйдзе канец для гэгэмоніі францускага мілітарызму, калі зыйдуць са сцэны „героі“ сусьветнае вайны, якім вельмі ня хочацца станавіцца ў рады звычайных грамадзян.

# З газэт.

### Палякі аб Польшчы.

Патрыятычная газэта „Wiek Nowy“ прызнаецца да гэткай праўды:

> Хваля дарагоўлі, вызыску, праступнай спэкуляцыі—расьце і перамяняецца ў страшную буру, якая парывае з сабой тысячы і сотні тысяч ахвяр з радоў пераносячага нэндзу насяленьня. Можа мала хто разумее як грознае ёсьць палажэньне і якія вынікі могуць быць з таго для істнаваньня Польшчы. Насяленьне вынішчана да апошняй меры, хоць няма цяпер у Польшчы чалавека, які-б ня быў бы міліянэрам. Але ў гэтым слове міліянэр скрываецца страшны сьмех. Мы знаходзімся на пахілай дарозе да катастрофы. Людзі штораз горай аплачаваны за сваю працу, ў той час як цэны на тавары страшна растуць. Гаспадарчае палажэньне вызывае страшны недахват гатоўкі. Такое палажэньне можа давясьці да масавага безрабоцьця.

А вось „Kurjer Poranny“, дык той такую рэжаць праўду.

> Было калісь у Польшчы лаўрова і цёмна, а цяпер ужо толькі цёмна, бо лаўры зрывае з галавы непапраўная бязсумленнасьць. Ганебны польскі бязлад ад'жыў. Калішні бязладны вялікан цяпер злы карлік ёсьць ізноў ворагам свабоды, як і калісь. Без кармазыну, без каралёў, бяз бунчучных гэтманаў і шалёнай магнацкай гордасьці сягоняшні дух Польшчы таксама тыранскі, фанабэрысты, якога трэба перамагчы калі жадаема, каб Польшча была вольнай.

## Патрэбнасьць клясавай сьвядомасьці.

Гісторыя нас вучыць, што кожная палітычная ідэалёгія, каб быць жыцьцёздатнай мусіць апірацца перш-на-перш на абароне эканамічных інтарэсаў вядомай клясы, каб гэтыя эканамічныя інтарэсы былі прычынай агульнага разьвіцьця, сусьветнага поступу.

Нам беларусам, як працоўна-сялянскаму народу ў першую чаргу, ці лепш бліжэйшай мэтай павінна быць вызваленьне соцыяльнае.

Што нам з такой дзяржаўнай незалежнасьці, якая дасьць для працоўных вызыск і залежнасьць ад капіталу, як гэта, прыкладам, ёсьць у Польшчы. Што нам з такой незалежнай бацькаўшчыны хоць-бы з самым паступовым урадам, калі яна—оазіс сярод бясплодных прастораў капіталу, калі яна на другі дзень сваіх арадзін станець залежнай ну хоць бы ад такой Антанты, якая няньчачы выгадуе нас калекамі і пакорнымі служкамі капіталу.

Беларуская Найвышэйшая Рада дажыла да поўнага ідэолёгічнага і арганізацыйнага развалу, дзякуючы таму, што яна хадзіла на гліняных нагах „усенароднасьці“, „надпартыйнасьці“, што яна ня мела сьмеласьці зрабіць тое, што бадай думала, а іменна адкрыта выступіць у абароне інтарэсаў працоўнай клясы, —яна нават ня мела сьмеласьці высказаць гэта.

Беларускі народ гэта непачатая сялянская стыхія—ўвесь народ працоўны—нацыя рабачаяў на дзіўнай фабрыцы, дзе замест электрычнасьці—сонца, замест машыны—прырода. Нацыя „сьляпых, глухіх, нямых“, як кажа наш поэт.

З прадвякоў гэтая аграмадная гушча народу зносіць нэндзу і голад душы, зносіць страшэнны эканамічны і палітычны заняпад. Дажыўшы да часоў, калі чалавецтва падзялілася на два варожыя лягеры фашызм і соцыялізм, беларускі народ таксама мусіць павялічыць, узмацаваць адзін з гэтых лягераў сваей нястомнай энэргіяй да працы, сваім творчым мужычым розумам.

Зразумела, што беларускі народ па свайму соцыяльнаму палажэньню павінен цалком і неадкладна прымкнуць да апошняга—працоўнага лягеру. Іншай дарогі яму няма.

Павінен прымкнуць, бо быць у такой бязчыннасьці, як быў да гэтуль ці займаць **небясьпечную сярэдзіну** паміж гэтымі лягерамі дужа бязслаўна і роўна яго сьмерці — яго сатруць, стопчуць, хваля жыцьця змые кволыя будыніны яго утопічных лятункаў.

На гэтую небясьпечную сярэдзіну і валочаць наш напоўсьвядомы народ некаторыя з беларускіх дзеячоў. Яны тлумачаць, што нашае галоднае палажэньне стварылася ад таго, што мы нацыянальна несьвядомы, што мы ня маем сваей незалежнай гаспадарсьцьвеннасьці. І вось пры поўнай беспраграмнасьці клічуць охамі і ўздохамі да аб'яднаньня, вытыкаюць дэмакратычнасьць, шчыранароднасьць, не даючы ані канкрэтных вывадаў, ані спосабаў для барацьбы за свае ідэалы, для іх зьдзейсьненьня. Ды яно і трудна найсьці спосаб супольнай барацьбы пры такой „усенароднасьці“ і „надпартыйнасьці“, пры тэй спрэчнасьці інтарэсаў, якія маюць працоўныя і беларускія паны, калі яны ёсьць. Сядзець на некулькі крэслах небясьпечна для гэтых паноў дзеячоў і шкодна для народу, (прыклад Керэнскій, Пілсудзкі)...

Дзеячы гэтыя думаюць, што атрымаўшы „грашовую дапамогу“, яны робяць беларускую справу, што беларускі рух можна уціснуць у рамкі дробных падачак-концэсыяў, што махаючы бутафорскімі мячамі даб'юцца вызваленьня. Крошкамі з буржуазнага стала яны хочуць задаволіць голад беларускага народу, які пры гэтым палітычным становішчы наўклонна коціцца да матар'яльнай руіны,—яны думаюць сваім згодніцтвам залатаць дзіравую лату—марная, няўдзячная праца.

Дзеячы гэтыя таўкуцца ў цесных ваабражаемых межах будучай іхняй дзяржавы і далей загуменьня сваей бацькаўшчыны нічога ня бачаць. Яны ня бачаць таго, што хто уціскае беларускі народ ёсьць ня ўвесь вораг, а як бы часьць ці адна шчупальца таго аграмаднага ворага ўсяго чалавецтва, які завецца капіталізм, за які гарой стаяць фашысты. Яны вузка бачаць толькі патрэбы свайго народу. а не патрэбы ўсяго чалавецтва.

Каб гэтыя паны ня гура-патрыятычнай чуцьцёвасьцяй, а цьвярозым розумам уразумелі сутнасьць слова Беларусь, дык з сорамам прызналі-б сваю папярэднюю абмылку, уявілі-б сабе, што Беларусь гэта крыльля для душы і каса, каб прагнаць зямлі палачоў. Тады-б ім ясна стала, што гэтага ворага—вялікана ня ім адным перамагчы, што толькі агульнымі сіламі працоўных, шчыльнымі сялянска - рабочымі радамі можна кінуцца ў бой, можна перамагчы нашую злыбяду і збудаваць Вялікі Братні Саюз.

Беларускі рух паўсямесна, цалком і неадкладна павінен абаперціся на клясавы работніцкі грунт, каб даць беларускаму народу клясавую сьвядомасьць, каб зрабіць з яго волата-змагара за агульна людзкі, а значыць і свой дабрабыт, каб ён стаў раўнапраўным сябрам у будучым сялянска - рабочым ладзе.

Унутраны распарадак і розныя другарадныя пытаньні ў гэтым працоўным ладзе будуць вырашаны пасямейнаму, па справядлівасьці, вырашаны грамадой.

Нацыянальннае пытаньне, як паказала нам жыцьцё, можа быць вырашана і зрэалізована толькі пры дыктатуры пролетарыяту. Жывы прыклад Саюз Савецкіх Соцыялістычных рэспублік, дзе, пры ўзаемнай дапамозе, даецца шырокі прастор і магчымасьць для разьвіцьця кожнай нацыянальнай культуры.

**Р. Юргілевіч.**

*Ад. Рэд.* Артыкул зьмяшчаецца у парадку дыскусіі.

Польскае сумленьне ёсьць сягоньня небясьпечна нізкім і залівае балотам душу нацыі, а заўтра можа заліць яе рэвалюцыя. Польскі бязлад вышаў з даўнейшых масавых злачынстваў, бунту, здрад, але захаваў нікчэмнасьць у сваёй барацьбе і саюзах, скрытнае забойства, дробную прадажнасьць, подкуп і ашуканства.

І так далей,—валовай скуры ня хопіць усё апісаць, а хоць бы нашоў такую скуру, дык у Польшчы цяпер, як у тэй казцы, ні словам ня выскажаш, ні пяром не апішаш.

# Палітычныя падзеі.

## Справа рэпарацыяў.

Францускі ўрад, згодна з пажаданьнямі ангельскага ўраду, публікуе тэкст францускага адказу на ангельскія прапазыцыі. Урад францускі прызнае патрэбу найхутчэйшага разьвязаньня справы рэпарацыйных сплат, але звальвае віну за ўсё на Нямеччыну. Эвакуацыя окупаваных абшараў можа мець месца толькі ў меру выплаты праз Нямеччыну належачых сплатаў і ў выпадку спыненьня пасыўнага спраціву.

У францускіх палітычных колах пераконаны, што да разрыву паміж Англіяй і Францыяй ня дойдзе, нават у тым выпадку, калі-б Англія пастанавіла выслаць асобную ноту ў адказ на нямецкую ноту. Пры гэтым француская прэса падчырківае, што Францыя жадае далейшага разгляду гэтых спраў у Парыжы ці ў Лёндане.

Італьянскі пасол маркіз Торэтта ўручыў лёрду Кэрзону італьянскі адказ.

Італьянскі ўрад заняў прыхільнае становішча адносна ангельскіх прапазыцыяў.

Нямецкая прэса аднагалосна выказвае перакананьне, што немцы ня могуць зьліквідаваць пасыўнага спраціву, які зьяўляецца рухам самога насяленьня. Калі-б Бэрлін узяў назад свой загад у справе адмовы послуху окупацыйным уладам, дык дайшло-б да поўнага бязладзьдзя і да замены пасыўнага спраціву на чынны, ні адзін нямецкі ўрад ня можа гэтага зрабіць. Прэса нямецкая мае пагляд, што прамова Бальдвіна не прычынілася да выясьненьня напружанай сытуацыі.

## ПОЛЬШЧА.

Забастоўка будаўляных работнікаў у Варшаве яшчэ не зьліквідована; забастоўка работнікаў драўлянай прамысловасьці абастрылася, дзякуючы правакацыйнаму становішчу прамыслоўцаў і абураючай тактыцы хадэкаў і энпээраў.

---

У Львове адбываецца зьезд легіянэраў. Ганаровым старшынёю зьезду выбраны Пілсудскі, які сказаў двухгадзінную прамову. На зьезьдзе шмат лявіцовых паслоў і дзеячоў, а таксама вышэйшых вайсковых. Прамовы на зьезьдзе скірованы проціў сучаснага ўраду і падчырківаюць заслугі Пілсудскага.

---

Міністар унутраных справаў Кернік на пасежданьні Сойму заявіў, што паліцыя напала на сьлед арганізацыі, якая мела на мэце зрабіць рад замахаў на аб'екты жал.-дарожныя, вайсковыя і іншныя, каб выклікаць забурэньні. Гэтая арганізацыя, нібыто, мела замер паміж 26 і 30 ліпня на ўсёй тэрыторыі Польскай дзяржавы зрабіць рад дывэрсыйных актаў. Але з прычыны арышту главароў, паміж якімі ёсьць 2 афіцэры польскага войска замеры гэтыя адложаны на далейшы час.

---

Цана злотага польскага устаноўлена ў 30 т. мар. польскіх.

---

## С. С. С. Р.

Апублікованы эмісыйны балянс Дзяржаўнага Банку паказавае, што да першага жніўня выпушчана чырвонцаў на суму 135 мільёнаў залатых рублёў, свабодны астатак эмісыйнага права каля 10 мільёнаў. Выпушчаныя чырвонцы на 60% забясьпечаны дарагімі мэталямі і загранічнай валютай, на 40% кароткатэрміновымі абавязаньнямі.

---

Галоўны Выставачны Камітэт запрашае прадстаўнікоў земляробскіх і профэсыянальных сялянскіх арганізацыяў усіх краёў, таксама і паасобных замежных сялян пабываць на выстаўцы ў час паміж 25 верасьня і 1 кастрычніка, прыймаючы на сябе арганізацыйныя расходы, праезд і поўнае утрыманьне. Зварочвацца ў загранічныя выставачныя бюро пры гандлёвых прадстауніцтвах, альбо беспасрэдна ў Галоўны Выставачны Камітэт у Маскву.

---

Нямецкі прадстаўнік у Маскве Радовіц зрабіў візыт Чычэрыну, злажыў павіншаваньні з прычыны утварэньня С.С.С.Р. і заявіў, што Нямеччына імкнецца да ўмацаваньня і пашырэньня прыязных адносін з С.С.С.Р.

---

Саюз камуністычнай моладзі разаслаў цыркуляр, заклікаючы да падрыхтоўкі сьвята ўраджаю, якое мае адбыцца па ўсіх Савецкіх Рэспубліках пасьля жніваў.

## ФРАНЦЫЯ.

Прамова Бальдвіна выклікала ў францускіх палітычных колах вялікае ўражаньне. Французы спадзяюцца, што ангельскія консэрватары не дапусьцяць да беспасрэдных перагавораў паміж ангельскім і нямецкім урадамі, але ўсё-ж такі ў Парыжы пануе перакананьне, што калі Пуанкарэ ня пойдзе на уступкі, а на гэта трудна лічыць, дык супольная праца Англіі і Францыі знаходзіцца пад знакам запытаньня.

---

Пуанкарэ адбыў доўгую нараду з сэнатарам Монзье, які едзе з неофіцыяльнай палітычнай місіяй у Савецкія Рэспублікі, адначасна з ім едзе Мішэль Дюленг, які шмат гадоў быў гандлёвым аташэ ў Петраградзе.

## НЯМЕЧЧЫНА.

Палажэньне ў Рурскім басэйне з боку апровізацыі дужа дрэннае. Прычынай окупацыі і катастрафальны спадак маркі нямецкай. Цэны растуць штодзень. Работнікі і безработныя прымушаны выступаць усё з новымі дамаганьнямі. Так, рада безработных у Эссэне жадае ўвядзеньня 4-х гадзіннага дня працы з платаю за 8 гадзін. Апрача таго безработныя жадаюць 10 мэтраў палатна на бялізну, 3 мэтры матар'ялу на вопратку, таннай абуўкі, бясплатнага вугальля, акрасы і бульбы.

---

Французы з окупаваных абшараў робяць новую перагрупіроўку войск.

---

У Могунцыі забаставаўшыя работнікі ў ліку некалькі тысяч устроілі бурную маніфэстацыю. Паліцыя сілаю разганяла дэмонстрантаў. Каля 15 асоб паран.

---

Левыя соцыялістычныя групы ў парлямэнце адбылі конфэрэнцыю, на якой пастанавілі, каб урад навязаў беспасрэдныя перагаворы з Францыяй.

---

У Бэрліне бастуюць работнікі электрычнай падземнай чугункі і работнікі дзяржаўных прадпрыемстваў сьпіртавога манаполю. Забастоўка ў Рурскім басэйне ахоплівае ўсіх работнікаў у капальнях. Дарагоўля выклікала шмат беспарадкаў у розных гарадох.

---

Соцыялістычныя фракцыі прынялі рэзалюцыю, ў якой зазначаюць, што, дзякуючы слабасьці ўраду Куно, ўнутраная і загранічная палітыка Нямеччыны азначаецца поўнай няўдачай. Рэзалюцыя заклікае ўрад да аканчальнага вырашэньня справы рэпарацыяў.

## ФІНЛЯНДЫЯ.

У Фінляндыі ў розных мясцох па загаду цэнтральных уладаў арыштована больш 100 камуністаў. Выданы таксама загад арыштоўваць усіх знаходзячыхся на свабодзе сяброў парлямэнтарнай камуністычнай фракцыі, цэнтральнага ўраду партыі, партыйных работнікаў, а таксама рэдактараў усіх партыйных органаў. Усе камуністычныя часопісі зачынены. Камуністычная партыя Фінляндыі вяла сваю дзейнасьць у поўнай згодзе з расейскай камуністычнай партыяй і III Інтэрнацыяналам.

## ВЭНГРЫЯ.

Забаставалі жалезнадарожныя работнікі, цягнікі ня ходзяць па ўсіх лініях. Урад абвясьціў ваеннае становішча ўва ўсім краю.

## ЭСТОНІЯ.

Міністэрскі крызыс зьліквідованы. Быўшы старшыня міністраў Паніс утварыу новы кабінэт, які апіраецца на коаліцыі, ў склад якой уваходзяць: сялянскі саюз, дэмакратычны блёк і партыя працы.

## ЮГАСЛАВІЯ.

Частковая рэконструкцыя кабінэту закончылася. Назначаныя 9 новых міністраў належаць да радыкальнай партыі.

## ІНДЫЯ.

Паміж урадовымі войскамі і паўстанцамі ў Бомбэі, якія налічваюць некалькі тысяч узброеных чалавек, распачаўся бой.

## Новы рэвалюцыйны Інтэрнацыянал.

„Vorwarts“ паведамляе, што 15 ліпня ў Франкфурце на Майне заснована Міжнароднае Інформацыйнае Бюро соцыяль-рэвалюцыйных партый. Да закладчыкаў належаць прадстаўнікі нямецкіх незалежных соцыялістаў, соцыялістычна-камуністычнага аб'яднаньня у Францыі, левых і максымалістаў эсэраў і літоўскіх народнікаў. Кіраўніцтва даручана Юрку Ледэбуру.

## Незалежніцкі рух на Філіпінскіх астравох.

Амэрыканскія газэты паведамляюць аб пашырэньні на Філіпінах незалежніцкага руху. Прычынай зьяўляецца жаданьне філіпінскіх дэпутатаў аб прызнаньні ім правоў рабіць зьмены ў законах, прынятых конгрэсам для Філіпін. Дамагаюцца таксама, каб Злучаныя Штаты адазвалі свайго гэнэральнага губэрнатара—Вуда. У Мянільі утварыўся камітэт, які мае заданьне абвешчаньне незалежнасьці Філіпін.

## 15 конгрэс эспэрантыстаў.

У Нюрэнбэрзе распачаўся 15 міжнародны конгрэс эспэрантыстаў.

# З Польскага Сойму.

У папярэднім нумары мы ўжо пісалі аб няўдалым экспозэ міністра фінансаў Ліндэ, ў якім ён дамагаўся зацьверджаньня бюджэту на трэці квартал бягучага году.

З рэзкай крытыкай урадовай палітыкі выступалі паслы опозыцыйных клюбаў. Пасол *Рудзінскі* (Wyzw.) крытыкуючы няздольнасць сучаснага ўраду паправіць фінансавае палажэньне Польшчы, сказаў, што сучасны ўрад ёсьць урадам народнай нядолі, якога трэба якнайхутчэй пазбавіцца.

Пасол *Діаманд* (P.P.S.), зазначыўшы адсутнасьць урадовай праграмы ў справах фінансаў, а імкненьне да ратаваньня толькі прыватнай кішані заможных клясаў, пераходзячы да ацэнкі агульнай палітыкі ўраду і падтрымліваючай яго большасьці, назваў правіцу забойцамі прэзыдэнта Нарутовіча. Бура, выкліканая гэтымі словамі, не дала яму магчымасьці разьвіць далей свае думкі.

Таксама проціў бюджэту выказаліся Рэйх (жыд), Хондзыньскі (N.P.R.), Выжыкоўскі (група Домбскага), Кроніг (немец).

Пасол *Васынчук* (Украін. клюб), не кратаючы фінансавых спраў, гаварыў аб адносінах унутранапалітычных, падчырківаючы, што ўвесь цяжар падаткаў ускладаецца на плечы дробнага сялянства, што пакуль справа йдзе, каб адтрымаць грошы, заклікаюць да згоды, але калі справа йдзе аб іх расходаваньні, дык голас маюць толькі партыі большасьці. Зямельная рэформа перавернута так, што цяпер, пасколькy яна выяўляецца ў форме асадніцтва на крэсах, зьяўляецца прадметам найбольшай ненавісьці, бо пазбаўляе селяніна тэй зямлі, на якую ён чакаў адвеку.

У вобласьці адміністрацыі гаворыцца аб ашчаднасьці, але утрымліваецца на крэсах цэлая армія шпіцляў, якія затручаваюць мясцовыя адносіны.

Што датыча асьветы, дык на шматтысячнае украінскае насяленьне ў Холмшчыне і Падляшшы, не дазваляецца мець ні аднэй дзяржаўнай, альбо прыватнай украінскай школы. Мы паднялі,—кажа на заканчэньне прамоўца,—сьцяг барацьбы за правы нашага народу ў рамах Рэчыпаспалітай. Не згаджаемся, каб нас трактавалі горш, як іншых. Мы на нашым сьцягу напісалі „за зямлю і волю“ і так сама, як і вы ў свой час вытрымалі ўціск заборцаў, дык і мы вытрываем і лепш згінем, але не сагнёмся ў змаганьні з польскай рэакцыяй.

Пасол **Тарашкевіч** (Белар. Клюб). Дзьве праўныя падставы нармуюць палажэньне нацыянальных меншасьцяў у Польшчы: гэта конституцыя, ухваленая польскім Соймам бадай бяз учасьця нацыянальных меншасьцяў і міжнародныя трактаты. У сучасны мамэнт, калі стаімо перад ухваленьнем бюд'жэтнага провізорыуму, гэта ёсьць пастаўленьнем свайго адабрэньня дзяржаўных выдаткаў, маем абавязак, паложаны на нас праз нашых выбаршчыкаў запытацца: а ці Дзяржава выпаўняе лёяльна ўсе абавязкі адносна да грамадзян беларускай нацыянальнасьці? Ці ўрад і Дзяржава ня гвалцяць конституцыі? Ці ўрад і Дзяржава ня гвалцяць трактатаў? Ня буду спэцыяльна нападаць на сучасны ўрад для таго, што хоць мы пераконаны, што ў нашых справах з сучасных урадаў — гэта найгоршы ўрад, але, па сутнасьці, ўсе дасюлешнія ўрады былі больш-менш аднолькавыя; гэта былі ўрады тэй самай клясы, якая і цяпер узяла ўладу ў свае рукі, але зусім выразна і з поўнай адказнасьцю.

Вось-жа пытаюся, ці ў вобласьці адміністрацыі прыняты пад увагу інтарэсы нашага народу, ці ў запраўднасьці суды ёсьць незалежныя і справядлівыя, ці ў дзяржаўнай гаспадарцы прыняты пад увагу нашыя эканамічныя інтарэсы, ці прыняты пад увагу інтарэсы нашай школы?

Што датыча адміністрацыі, дык усе згаджаюцца, што справа гэтая на „крэсах“ пастаўлена дрэнна. Толькі вы глядзіце на гэтую справу пад іншым кутом гледжаньня: жадаеце павялічыць лік паліцэйскіх і шпікоў, мы-ж кажам, што іх так ёсьць занадта, а дамагаемся, каб адміністрацыя выпаўняла конституцыю і уставы, якія павінны быць згодны з конституцыяй і трактатамі.

Вымаганьні уставы аб абывацельстве польскім — прадстаўляць выпіскі з кніг сталага насяленьня невыпаўнімы з тэй прычыны, што праз нашыя абшары прайшла вайна і, дзякуючы гэтаму, ў большасьці выпадкаў гэткіх кніг няма. І дзеля гэтага грамадзянін, які радзіўся і стала пражываў на гэтых абшарах мусіць шукаць выпісаў з няістнуючых кніг. Нават Найвышэйшы Суд, уневажняючы мандат пасла Каліноўскага, які згодна з трактатамі меў права на абывацельства, тым самым нарушыў Вэрсальскі трактат, тэй трактат, на якім, па прызнанью нават прадстаўнікоў сучаснага ўраду, Польшча апірае сваё істнаваньне. Гэта такі гвалт, што калі ён ня будзе ўрэгулёваны, дык мы змушаны будзем зьвярнуцца да Лігі народаў. Вось-жа калі нават Найвышэйшы Суд ломіць закон і трактаты, дык што-ж казаць аб іншых судох, якія па сутнасьці зьяўляюцца толькі выражэньнем стэрорызованай, абаламучанай і засьляплёнай польскай опініі, якая на выяўленьне факту істнаваньня ў Польшчы трэці непалякоў дайшла да такога абурэньня, якое давяло да вядомых выпадкаў у сьнежні м. г.

Калі возьмем вобласьць гаспадарчага жыцьця, дык тут спаткаемся з пляновай сыстэмай вырываньня ўсіх падставаў нашага эканамічнага жыцьця: зямлі і працы. Вырываецца ўсялякая магчымасьць заработку і тады, калі ўся польская опінія падняла гвалт з прычыны пазбаўленьня дзяржаўнай службы 16 польскіх грамадзян у вольным горадзе Гданску—дзяржаве, ўва ўсякім выпадку, незалежнай,—у Польскай Рэспубліцы, якая мае найдэмакратычнейшую конституцыю, кожны грамадзянін, які ня меў шчасьця радзіцца каталіком і паляком, караецца тым, што абсалютна ніколі ня прыймаецца на ўрадовую службу, што проста знаходзіцца ў супярэчнасьці з Конституцыяй і Вэрсальскім трактатам.

Далей пяройдзем да так моцнадразнячай справы— да асадніцтва. Кожны дзень гэтым капаецца пропасьць і выклікаецца ненавісьць паміж беларускім грамадзянствам і польскім народам.

А калі перайду да такой справы, якая здавалася-б не павінна выклікаць ніякага спраціву, да справы нашай асьветы, дык знойдзем такое становішча, на азначэньне якога трудна знайсьці слова. Прадставілі

